www.nv-online.info

№ 20 (4272)

10 сакавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**«Народная Воля»** в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

ЗА ПРОХОДНОЙ

# Кто купит стеклозавод «Елизово»?

*Состоятельные бизнесмены присматриваются к некогда успешному стеклозаводу «Елизово», но покупать не торопятся.
Нынешний кризисный управляющий предприятия Николай Шевкунов рассказал «Народной Воле», как сейчас обстоят дела на предприятии.*




– Сейчас открыта процедура ликвидационного производства, – *рассказал «Народной Воле» управляющий Николай Шевкунов.* – Имущество будет выставляться на торги. Проведена конкурсная оценка предприятия, на днях состоится собрание кредиторов – определимся, по какой цене будет все выставляться.

**– Проходила информация, что к предприятию присматриваются покупатели, в том числе и иностранные…**

– Претендентов было много. Приезжали, смотрели, и как будто желание было купить завод, но…

Тот, кто действительно планирует приобрести завод, должен направить заявку и явиться на торги. Тогда будет ясно, что это человек с серьезными намерениями. Но пока предприятие не продано. Хотя присматриваются к нему инвесторы, в том числе и иностранные.

**– Сегодня завод работает?**

– У нас беспрерывное производство. Ну как печь остановить?

**– Полтора года назад вы мне говорили: средняя зарплата на «Елизово» – 350–400 долларов в эквиваленте. А сейчас?**

– Значительно выше! Средняя зарплата за декабрь—январь – 1158 белорусских рублей. Мы вышли на задание главы государства.

**– Сами или все-таки при помощи кредиторов?**

– Сами! Мы работаем и развиваемся.

**– Но долги-то по-прежнему есть?**

– Это старые долги, за которые мы сегодня не в ответе. А что касается нашей деятельности – мы в хорошей прибыли.

**– Выходит, бизнесмен, купивший «Елизово», не пожалеет о приобретении?**

– В принципе, да. Особенно если будет работать так, как работаем мы сегодня. Мы не страдаем от отсутствия заказов. Наоборот, даже мощностей иногда не хватает!

**– Неясно только, почему такое прибыльное предприятие до сих пор никто не купил? Нереальная цена или есть какие-то другие нюансы?**

– Есть ряд проблем (и их немало), которые новому собственнику обязательно придется разрешать. Получится у нового собственника это сделать или нет – пока вопрос. Нам удалось многие вопросы уладить, поэтому сейчас довольно успешно работаем. В дальнейшем все будет зависеть от того, как поведет себя новый собственник…

**– Знаю, что ликвидационное производство открыто до 29 июня. Если до этого времени завод не будет продан, то…**

– Предприятие будет передано кредиторам – их чуть больше пяти десятков. Самый крупный кредитор – «Беларусбанк».

**Марина КОКТЫШ.**

КСТАТИ

Бывший владелец «Елизово» Александр Муравьев получил 12 лет лишения свободы. После задержания и ареста Муравьева на подконтрольных ему предприятиях работали самые разные проверки. На «Елизово» была весьма непростая ситуация: остановились два из трех цехов предприятия. Завод имел около десятка миллионов долларов долгов только за газ!

Некоторое время счета и имущество предприятия находились под арестом – по решению КГБ имущественный комплекс предприятия был признан вещественным доказательством по делу задержанного бизнесмена. Затем арест с предприятия сняли.

С момента объявления банкротом заводом не управляют ни Александр Муравьев, ни государство. Имуществом распоряжается антикризисный управляющий Николай Шевкунов.

СЛЫШАЛИ?

## Понтифик осенью приедет в Вильнюс

Папа Римский Франциск посетит страны Балтии 22–25 сентября 2018 года, сообщает Catolic.by. Свой визит понтифик начнет с Литвы. Планируется, что 22 и 23 сентября Папа Франциск посетит Вильнюс и Каунас. В Вильнюсе он встретится с молодежью, а через день отслужит мессу в Каунасе.

Далее Папа Римский также планирует посетить Ригу, Алгону, Таллинн. Как сообщалось ранее, 1 февраля нынешнего года белорусские епископы побывали на аудиенции у Папы Римского Франциска в Ватикане. На встрече обсуждали также и возможный визит понтифика в Беларусь.

УТРАТА

## Прощай, Валентин Владимирович…

На 74-м году ушел из жизни известный государственный деятель, дипломат, кандидат экономических наук Валентин Величко, сообщили БЕЛТА в Министерстве иностранных дел Беларуси.

«Уроженец Минской области, Валентин Владимирович значительную часть своей профессиональной жизни провел на Гомельщине. С 1968-го по 1993 год работал на разных должностях в Гомельском обкоме комсомола, Гомельском областном совете профсоюзов, Советском райкоме КПБ г.Гомеля, Гомельском облисполкоме, Совете объединения профсоюзов Гомельской области», – рассказали в МИД.

Почти четверть столетия его жизненный путь был связан с международной деятельностью. Валентин Владимирович внес значительный вклад в становление дипломатической службы независимого белорусского государства.

Был в числе первых послов суверенной Беларуси. В 1993–1997 годах возглавлял Посольство Беларуси в Латвии, был аккредитован в Финляндии по совместительству. В 1997–1998 годах занимал пост министра по делам Содружества Независимых Государств Республики Беларусь.



С 1998-го по 2016 год работал на руководящих должностях в системе МИД Беларуси: посол по особым поручениям, первый заместитель министра иностранных дел. С 2001-го по 2016 год являлся Чрезвычайным и Полномочным Послом Беларуси в Украине.

Был награжден государственными наградами: медалью «За трудовое отличие», орденом Почета, орденом Отечества III степени, а также Почетной грамотой Верховного Совета БССР, дважды – Почетной грамотой Совета министров Беларуси.

«Искренний, отзывчивый и принципиальный человек, Валентин Владимирович пользовался авторитетом и заслуженным уважением на всех вехах своего трудового пути. Память о Валентине Владимировиче Величко останется в сердцах его коллег и друзей», – подчеркнули во внешнеполитическом ведомстве.

ЧИТАЙТЕ!

*В следующем номере «Народной Воли» – встреча с **Семеном Георгиевичем Шарецким**, бывшим председателем Верховного Совета 13-го созыва, ныне эмигрантом в США.
Как он живет, о чем думает, интересуется ли Родиной – об этом и многом другом вы, уважаемые читатели, узнаете во вторник из материала известного журналиста Олега Чернова.*

**Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы рабочы дзень і ў любым паштовым аддзяленні Рэспублікі Беларусь.**

**Сіла газеты – у чытачах!**

ЧИСТОСЕРДЕЧНОЕ ПРИЗНАНИЕ

## Александр ЛУКАШЕНКО, президент Республики Беларусь:



*– Если мы растем медленнее, чем другие, значит, мы отстаем. Отстаем от мира в развитии, технологиях и, конечно, уровне жизни людей…
Развитие страны в 2017 году росли на 2,3 процента, развивающиеся – на 4,5 процента. Мы же пока просто вяло ползем вслед.*

БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ

Да, правде надо смотреть в глаза. Нельзя больше молчать, когда дела во многих сферах нашей жизни неважные. За 7 лет валовой внутренний продукт вырос в мире на 25 процентов, у нас, в Беларуси, не дотянул даже до 6 процентов. Выходит, мы в четыре с лишним раза медленнее развивались. Откуда быть высоким зарплатам, нормальному благосостоянию?

На кону судьба страны, ее безопасность. Тут уже разговоры не в счет, нужны решительные действия. Коль государство оказалось не в состоянии бросить перчатку вызовам времени, ему нужно срочно поделиться некоторыми своими полномочиями с инициативными, деловыми гражданами. В надежные руки должны попасть прежде всего те предприятия, которые все прошедшие годы основательно подпитывались из госбюджета, не оправдывая надежд, возлагавшихся на них. Сократить расходы на реализацию тех проектов, без которых страна может еще долго обходиться. Огромнейший резерв – оптимизация чиновничьего аппарата.

Время окончательно убедило: не нужно изобретать велосипед, если в мире он давно изобретен. Взять на вооружение опыт цивилизованных стран – и действовать, действовать, действовать! Каждому в отдельности и всем вместе!

СТОП-КАДР




Што і казаць, прыгожы забег дзяўчат адбыўся 8 Сакавіка ў цэнтры Мінска.

УВАГА!

## «Народная Воля» шукае дырэктара па развіцці

**Функцыянальныя абавязкі:**
- аналітыка, арганізацыя і кантроль за рэалізацыяй газеты праз розничны гандаль;
- арганізацыя і правядзенне падпісных кампаній;
- работа з рэкламадаўцамі;
- арганізацыя і правядзенне конкурсаў, віктарын, выстаў, чытацкіх канферэнцый, сустрэч, скіраваных на павышэнне папулярнасці "Народнай Волі", пашырэнне яе аўдыторыі;
- прыцягненне інвестыцый для рэалізацыі сумесных праектаў.

Заробак – дастойны.
Забяспечваецца службовым аўтатранспартам. Наяўнасць вадзіцельскага пасведчання абавязковая.

**Рэзюмэ дасылаць: nvonlineinfo@gmail.com**

**Тэлефон для справак: +37517-328-68-71.**

Сумоўе – у зручны для вас час.

**Рэдакцыя.**

ГІСТОРЫЯ БНР: 100 ГОД ТАМУ…

# Ад краёвай улады да ўласнай дзяржаўнасці

3 сакавіка 1918 года, праз няпоўныя два тыдні пасля абвяшчэння Выканкамам Рады Усебеларускага з'езда Першай Устаўной граматы да народаў Беларусі, у Брэсце была падпісана мірная дамова паміж бальшавіцкай Расіяй і кайзераўскай Германіяй. Заключэнне такой дамовы, аднак, адбылося не ў тым выглядзе, як ад пачатку планавалі бальшавікі. У кіраўніцтве ленінскай партыі ўвесь час адбываліся жорсткія дэбаты наконт таго, якімі тэрыторыямі можна заплаціць Германіі за мір ва ўмовах адсутнасці ў савецкай Расіі баяздольнай арміі. Ленін, які ўступіў у зацятую спрэчку з Львом Троцкім, Мікалаем Бухарыным, Майсеем Урыцкім, Феліксам Дзяржынскім, Рыгорам Апокавым-Ломавым і іншымі членамі бальшавіцкага ЦК, а таксама з левымі эсэрамі, паставіў ультыматум: мір з Германіяй павінен быць заключаны на любых умовах! У выніку тэкст падпісанай у Брэсце дамовы змяшчаў наступныя палажэнні:

– бальшавіцкая Расія адмаўлялася ад прэтэнзій на ўладу ў Польшчы, Літве і Курляндыі: будучы статус гэтых тэрыторый павінен быў рэгулявацца Германіяй па ўзгадненні з мясцовымі народамі згодна з іх правам на самавызначэнне;

– Эстляндыя і Ліфляндыя, а таксама амаль уся тэрыторыя Беларусі (на захад ад Дняпра) заставаліся пад кантролем нямецкіх войскаў;

– Украіна і Фінляндыя прызнаваліся ў якасці незалежных дзяржаў; дзяржавы нямецка-аўстрыйскага блока (Цэнтральныя дзяржавы) адмаўляліся ад анексій і кантрыбуцый;

– Расія губляла 26% ранейшай еўрапейскай тэрыторыі, 27% ворнай зямлі, 26% чыгуначнай сеткі, 33% тэкстыльнай, 73% металургічнай прамысловасці, 73% вугальных шахтаў;

– народы былых ускраін Расійскай імперыі мянялі расійскую ўладу на пратэктарат з боку Цэнтральных дзяржаў.

Усе тэрыторыі, ад прэтэнзій на якія адмовіўся расійскі бальшавіцкі ўрад пасля падпісання вышэйзгаданай дамовы, агулам складалі 1,42 млн км$^2$, на якіх жыло на той час каля 60 млн чалавек – больш як 1/3 ад агульнай колькасці насельніцтва былой Расійскай імперыі.

Такім чынам ленінскі ўрад *прызнаваў страту дзяржаўнай сувязі Расіі з вялікай часткай Беларусі*, і вышэйзгаданаму Выканкаму Рады Усебеларускага з'езда не заставалася нічога іншага, як зафіксаваць такое прызнанне. Але зрабіць гэта было псіхалагічна няпроста. Па-першае, у Выканкаме Рады вялікую колькасць (хоць ужо і не большасць) галасоў мелі тыя, хто не ўяўляў сабе будучыні Беларусі па-за Расіяй. Па-другое, беларускія незалежніцкія сілы доўга не маглі пагадзіцца са стратай вялікіх тэрыторый ва Усходняй і Цэнтральнай Беларусі, якія маглі ў перспектыве зноў трапіць пад бальшавіцкую ўладу. Па-трэцяе, значныя часткі сённяшняй паўднёвай Брэстчыны і паўднёвай Гомельшчыны павінны былі перайсці пад уладу Украінскай Народнай Рэспублікі. Даўнія хаўруснікі Леніна – кайзераўскія палітыкі – узялі на сябе ў Брэсце абавязацельства не прызнаваць ніякіх новых дзяржаў, якія захацелі б на тэрыторыі былой Расійскай імперыі пасля падпісання Брэсцкай дамовы абвясціць сваю незалежнасць, што выклікала асаблівую радасць Леніна і Троцкага.

Велізарная несправядлівасць, якую падрыхтавалі беларусам бальшавікі, кайзераўцы і ўкраінскія незалежнікі, на гэтым не заканчвалася: абвешчаная ў лютым 1918 г. незалежнасць Літоўскай Рэспублікі магла прывесці да таго, што ўся астатняя тэрыторыя нашай краіны магла перайсці пад уладу апошняй. Беларусы ў такім выпадку заставаліся без аніякіх шанцаў на сваю дзяржаўную будучыню!

Усё гэта моцна актывізавала дзейнасць Народнага сакратарыята і Выканкама Рады Усебеларускага з'езда, нават самых актыўных яе руска-, нямецка-, украінска- або літоўскацэнтрычных сяброў. У выніку 9 сакавіка 1918 г. была прынята Другая Устаўная грамата, скіраваная да ўсіх нацыянальнасцяў, што насялялі Беларусь. У гэтай грамаце нарэшце абвяшчалася, што Беларусь павінна стаць сапраўдным дзяржаўным утварэннем *у выглядзе Беларускай Народнай Рэспублікі*. У васьміпунктавым дакуменце зноў фармуляваліся прынцыпы дэмакратычных выбараў Усебеларускага Устаноўчага сходу, але тэрыторыя дзяржавы вызначалася вельмі агульным чынам: "у рубяжох рассялення і лічэбнай перавагі беларускага народа".

Другую Устаўную грамату варта разглядаць як своеасаблівую малую канстытуцыю дзяржавы, што пачынала ствараццa.

Да часу завяршэння першага пасяджэння Устаноўчага сходу ўладу на беларускіх тэрыторыях павінна была ажыццяўляць Рада Усебеларускага з'езда, дадаткова папоўненая прадстаўнікамі арганізацый нацыянальных меншасцяў. Народны сакратарыят вызначаўся як орган адміністрацыйнай і выканаўчай улады, падсправаздачны вышэйназванай Радзе.

У межах БНР абвяшчалася свабода слова, друку, сходаў, аб'яднанняў; "безумоўная вольнасць сумлення, незачэпнасць асобы і памешкання".

У Другой Устаўной грамаце таксама гарантавалася права ўсіх народаў на нацыянальна-персанальную аўтаномію, абвяшчалася роўнасць усіх моў народаў Беларусі (нагадваю, што ў той час другой па распаўсюджанасці ў нашай краіне была яўрэйская мова – ідыш; значная частка пастаяннага насельніцтва карысталася таксама польскай, рускай і ўкраінскай мовамі).

Працоўным Беларусі гарантавалася безумоўнае права на васьмігадзінны рабочы дзень.

Ідучы насустрач папулісцкім уяўленням сацыялістаў і эсэраў, якія колькасна дамінавалі ў складзе Рады Усебеларускага з'езда, аўтары Другой Устаўной граматы ўключылі ў яе тэкст палажэнне аб скасаванні прыватнай уласнасці на зямлю: "Зямля перадаецца без выкупу тым, хто сам на ёй працуе. Лясы, азёры і нетры зямлі абвяшчаюцца ўласнасцю Беларускай Народнай Рэспублікі".

18 сакавіка 1918 г. прадстаўнік Рады Усебеларускага з'езда Аляксандр Цвікевіч выступіў перад дэпутатамі яшчэ дэмакратычна абранай Мінскай (Менскай) гарадской думы і звярнуўся да іх з просьбай аб падтрымцы БНР. Пасля дэбатаў прапанова Цвікевіча была прынята, хоць некаторыя дэпутаты агаворвалі, што падтрымалі Беларускую Народную Рэспубліку выключна з прычыны асаблівасцяў палітычнай сітуацыі, якая ўзнікла ў выніку падпісання Брэсцкай дамовы. Утварэнне БНР падтрымаў таксама прадстаўнік уплывовай польскай фракцыі ў Мінскай думе Канстанты Дэмідэцкі-Дэмідовіч, падкрэсліўшы, што "палякі заўсёды прызнавалі беларускі народ гаспадаром сваёй краіны". Паводле вынікаў пасяджэння дзесяць прадстаўнікоў Мінскай гарадской думы ўвайшлі ў склад Рады Усебеларускага з'езда. Гэты орган у той жа дзень папоўніўся паўнамоцнымі прадстаўнікамі Віленскай Беларускай Рады (ВБР), сярод якіх былі вядомыя дзеячы беларускага адраджэння браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, а таксама Янка Туркевіч, Дамінік Сямашка і іншыя.

Тады ж Рада Усебеларускага з'езда была перайменавана ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, якой і было наканавана прымаць далейшыя гістарычныя рашэнні…

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

СІТУАЦЫЯ

# Ці атрымае дапамогу Міхаіл Жамчужны?

*13 сакавіка ў калонію да праваабаронцы наведаюцца Рэспубліканская і Магілёўская абласная назіральныя камісіі.*

Праблемы ў Міхаіла Жамчужнага пачаліся пасля пераводу ў Горацкую калонію, дзе для яго былі створаны невыносныя па сваёй жорсткасці, зневажальныя ўмовы адбыцця пакарання.

*"Натуральна, што Міхаіл не можа ўсяго напісаць у лістах, таму ў рэальнасці сітуацыя можа быць яшчэ горшая, чым мы ўяўляем,* – кажа праваабаронца **Таццяна Рэвяка.** – *Бо мы ж не ведаем усяго. Таму важна, каб гэтыя камісіі хаця б упэўніліся, што Жамчужны жывы і здаровы, нягледзячы на тое, што ён застаецца ў складанай сітуацыі. Каб выпрацавалі і прапанавалі нейкія шляхі вырашэння праблемы. Зараз наогул з Міхаілам Жамчужным дазволена сустракацца толькі адвакату, але ён больш дапамагае ў прававых пытаннях. Мы не губляем спадзяванняў, што такія магчымасці будуць рэалізаваны праз гэтыя назіральныя камісіі".*



*Нагадаем: заснавальнік "Платформ Інавэйшн"* **Міхаіл Жамчужны** *ў ліпені 2015 года быў асуджаны Віцебскім абласным судом на 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда разгледзела касацыйную скаргу і прызначыла Жамчужнаму больш строгае пакаранне – шэсць з паловай гадоў пазбаўлення волі.*

*Ён быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных арт.376 (часткі 1 і 2), ч.5 арт.16, арт.375 (частка 1) і арт.431 (часткі 1 і 2): падбухторванні да наўмыснага разгалошвання звестак, якія складаюць службовую таямніцу; незаконным набыцці і збыце спецыяльнага тэхнічнага сродку, прызначанага для сакрэтнага атрымання інфармацыі, у тым ліку – паўторна; дачы хабару і дачы хабару паўторна.*

**Віктар ШПАК.**

ЭШЕЛОНЫ ВЛАСТИ

# Виктор Лукашенко займется цифровой экономикой

*Сын главы государства, который занимает должность помощника президента по национальной безопасности, вошел в состав Совета по развитию цифровой экономики.*

*«Народная Воля» поинтересовалась, чем будет заниматься совет и на что влиять?*

Возглавляет Совет по развитию цифровой экономики премьер-министр **Андрей Кобяков.**

В положении о созданной структуре сказано, что среди основных задач Совета – *«определение целей и задач цифровой трансформации национальной экономики; формирование благоприятной правовой и регуляторной среды для развития национальной цифровой экономики;*

*стимулирование перехода к передовым цифровым технологиям в различных сферах экономики и общественных отношений;*

*создание и развитие современной цифровой инфраструктуры и создание цифровых платформ различного назначения;*

*развитие национальной индустрии информационно-коммуникационных технологий»* и прочее.

Заседания Совета будут проводиться не реже раза в квартал.

ПОИМЕННО

## От Матюшевского до Павлюченко…

*Среди членов Совета по развитию цифровой экономики немало узнаваемых персон.*

Матюшевский Василий Станиславович – первый вице-премьер заместитель премьер-министра Республики Беларусь (заместитель председателя Совета).

Шедко Дмитрий Геннадьевич – замминистра связи и информатизации (секретарь).

Алейников Денис Валерьевич – адвокат, старший партнер ООО «Алейников и Партнеры».

Гурский Дмитрий Анатольевич – директор ОАО «Айдиономикс Диджитал».

Добкин Аркадий Михайлович – председатель совета директоров компании «ЭПАМ Системз».

Калечиц Дмитрий Леонидович – заместитель председателя правления Нацбанка.

Кондратенко Олег Васильевич – директор ООО «Лайт Вел Организейшн».

Курбацкий Александр Николаевич – председатель экспертного Совета Парка высоких технологий, заведующий кафедрой технологий программирования факультета прикладной математики и информатики Белорусского государственного университета.

Мякишев Антон Александрович – директор иностранного общества с ограниченной ответственностью «Майкрософт Софтвер Бел».

Павлюченко Андрей Юрьевич – начальник Оперативно-аналитического центра при президенте Республики Беларусь.

Попков Сергей Петрович – министр связи и информатизации.

Снопков Николай Геннадьевич – замглавы Администрации президента.

Турчин Александр Генрихович – руководитель аппарата Совмина.

Янчевский Всеволод Вячеславович – директор ГУ «Администрация Парка высоких технологий».

**Марина КОКТЫШ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

# Наталья Шарангович вернулась в семью

Директор Национального центра современных искусств **Наталья Шарангович** ушла в отставку по собственному желанию. Хотя неофициальные источники утверждают, что заявление об уходе ей предложил написать работодатель – Министерство культуры, так как проверяющие органы, которые работали в Центре осенью, выявили некоторые нарушения финансовой дисциплины. Что на административной работе случается, впрочем, не так уж и редко.



Как бы то ни было, в музейном деле Беларуси завершилась, можно сказать, эпоха семьи Шаранговичей – естественно, на официальном поприще. Личные творческие достижения народного художника Василия Петровича Шаранговича и его дочери – искусствоведа Натальи Шарангович – остаются незыблемыми.

Интересно, что в свое время Наталья Васильевна пришла на должность директора Музея современного искусства, который впоследствии был преобразован в ныне существующий Национальный центр, сменив на ней своего родного отца. Что, конечно, было воспринято тогда, в 1997-м, как экстраординарное назначение: до этого сила творческих династий на административные должности страны так сильно не распространялась.

Тем не менее Наталья Васильевна, обладая добрым нравом и степенью кандидата искусствоведения, быстро вошла в административную колею. С художественной средой у нее и так всегда были крепкие связи, а хорошее образование помогло наладить еще и зарубежные контакты. Именно при ней наш небольшой музей стал Национальным центром современных искусств с немалым штатом. Но главное – именно директор Наталья Шарангович вывезла современное искусство Беларуси на Венецианскую и Московскую международные биеннале – и в Венеции с тех пор Беларусь представляет свое искусство регулярно. И, наконец, в прошлом году под эгидой Центра впервые был проведен Национальный конкурс в области изобразительного искусства и вручены премии (уж кому и за что – как всегда, отдельный и, как всегда, болезненный разговор).

Сейчас Наталья Шарангович, по ее собственным словам, находится в свободном творческом полете. Она считает, что жизнь тем и хороша, тем и интересна, что в ней всегда возможны перемены. Наталья Васильевна плотно занимается делами семьи: через несколько недель в Мядельском районе будет открыта именная галерея ее отца, народного художника Василия Шаранговича.

Исполняющим обязанности директора Национального центра современных искусств назначен заместитель директора магистр искусствоведения Денис Барсуков.

**Елена МОЛОЧКО.**

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Казахскі выспятак «русскому миру»

Салжаніцын калісьці называў Казахстан "падбрушшам Расіі". Значыць, уяўляў сваю краіну якімсьці зверам, магчыма, нават тыграм. Пры ўсёй павазе да нобелеўскага лаўрэата тое яго палітычнае выступленне з выразным імперскім ухілам нагадвала хіба кулінарную лекцыю з вядомага кінафільма "Паласаты рэйс". Памятаеце, там герой Яўгена Лявонава на пацеху матросам знаходзіць у тыгра найперш "агузак" ды "падбрушша". У камедыі гэта выклікáла смех, а ў трыбунных выказваннях Аляксандра Ісаевіча – нязгоду і абурэнне тых, каму не хацелася быць "падбрушшам" ці іншымі часткамі цела канаючай імперыі.

Прайшло з таго часу дваццаць пяць гадоў, і Казахстан сам адчуў сябе "тыграм". Маладым, дужым, з упэўненым пругкім крокам. Багатыя радовішчы карысных выкапняў (нафта, газ, каменны вугаль, 25% разведаных сусветных запасаў урану, 25% свінцу, 30% хрому) толькі падмацоўвалі эканамічны апетыт таго "тыгра". Казахстан з гулагаўскай і пераважна цаліннай савецкай рэспублікі ператварыўся ў заможную (па мерках СНД) краіну з уласным палітычным курсам і знешняй палітыкай.

Адной з праяваў гэтага курсу стаў нядаўні ўказ казахстанскага прэзідэнта Нурсултана Назарбаева аб пераводзе казахскага алфавіта на лацінскі шрыфт. Перавод мае завяршыцца ўжо ў 2025 годзе – то бок пад наглядам самога Назарбаева, які, нягледзячы на свой найвялікшы ў СНД прэзідэнцкі стаж, на пенсію ў бліжэйшыя гады яўна не збіраецца. Так што, трэба думаць, указ елбасы (лідара нацыі – афіцыйны тытул Нурсултана Абішавіча) будзе выкананы на ўсе 100%.

Варта нагадаць, што казахі аднойчы ўжо пераходзілі на лацінку – у 1929-м, але праз адзінаццаць гадоў Сталін рашуча накінуў на казахскую мову аброць кірыліцы. Прывязваючы савецкія рэспублікі (фактычна калоніі) да Расіі эканамічна, не забываўся падцягнуць яшчэ і з дапамогай графічнага пісьма.

Казахстан у адрозненне ад Расіі даўно ўжо развітаўся са сталінскім мінулым. Як у беларускім народзе кажуць, і рукі абтрос. Пад прэзідэнцкім патранажам у краіне праходзяць сустрэчы былых гулагаўцаў. Мая Тодараўна Кляшторная, якая дзяўчынкай прайшла праз казахстанскі *АЛЖИР* (*Акмолинский лагерь жён изменников Родины*) неяк расказвала, як на адной з такіх сустрэч у застоллі сядзела поруч з Назарбаевым.

І вось яшчэ адзін сталінскі вузел – кірылічны – узяўся развязаць Казахстан. Што адразу ж выклікала нервовую рэакцыю ў Расіі, дзе паводле нядаўніх сацыялагічных апытанняў Сталін – дзяржаўны дзеяч №1, нават Пуціна на другое месца пасунуў.

"Предатели казахи – переходят на латиницу. Русские им культуру дали, сохранили как народ, а они плюнули в душу великой России", – падобнымі каментарыямі аж захлынаюцца сёння расійскія сайты. Сайты захлынаюцца, але *Россельхознадзор* (які апошнім часам ператварыўся ў філіял іхняга МЗС) забарону на ўвоз казахстанскай бараніны ці пшаніцы не ўводзіць. Крэмль асцерагаецца – з Астаной так лепш не жартаваць, бо могуць узнікнуць контрмеры, у параўнанні з якімі лацінка падасца гуллівым, зусім не балючым выспяткам.

А балючыя выспяткі Расія ад Казахстана ўжо неаднойчы атрымлівала. Скажам, на Байкануры, пасля чаго змушана была будаваць касмадромы на ўласнай тэрыторыі. Яшчэ адным такім адчувальным выспяткам для пыхлівага Крамля бачыцца мне кінафільм расійскага (!) рэжысёра Сяргея Снежкіна "Так сышліся зоркі", дзе зорка адна – Назарбаеў, а Ельцын з Гарбачовым паказаны з відавочнай карыкатурынкай. Памятаеце, у тым фільме маскоўскія генералы па распараджэнні Назарбаева сядзяць фактычна пад арыштам, ізаляваныя ад свайго начальства…

Каб больш не арыштоўваць чужых генералаў і не запускаць са сваёй зямлі чужыя ракеты, Назарбаеў паслядоўна і мэтанакіравана выводзіць сваю краіну з-пад уплыву Расіі. У тым ліку і праз адмаўленне ад кірыліцы. "Гэты крок мае вялікае сімвалічнае значэнне, ён паказвае, што Казахстан развітваецца з "русским миром", па сутнасці, гэта завяршальны этап дэкаланізацыі", – сказаў у інтэрв'ю Радыё Свабода казахскі палітолаг Айдос Сарым.

Здавалася б, у Казахстане па-ранейшаму жыве тры мільёны рускіх – 20% ад усяго насельніцтва. І яны наўрад ці прыйдуць у захапленне ад тае лацінкі. Але мільёны тыя – пераважна "панаехаўшыя" за савецкім часам людзі сталага веку. А ў пачатковых класах казахстанскіх школ – да 90% казахскіх дзетак. І вось менавіта для іх – будучыні Казахстана – і робіцца той пераход на лацінку. Ужо сёння казахская моладзь за дзяржаўны кошт вучыцца ў самых прэстыжных універсітэтах свету, дзе кірыліцай карыстаюцца хіба філолагі-русісты. Так што лацінскі алфавіт у казахстанскіх школах – крок пралічаны і апраўданы.

А ці мэтазгодна папулярызаваць лацінку ў Беларусі? А чаму ж не, тым больш беларуская мова з ёю даўно сябруе – яшчэ вядомая "Хроніка Быхаўца" пісалася на лацінцы, а ладная частка Беларусі да 1939 года свабодна чытала кніжкі і газеты, надрукаваныя лацінскім шрыфтам. Часам яны так і выходзілі: палова накладу – на кірыліцы, палова – на лацінцы. Пры патрэбе наша мова лацінку лёгка "ўспомніць". Як прыклады такога "ўспаміну" – шыльды ў мінскім метро і на беларускай чыгунцы. Не ведаю, як каму, а мне яны лашчаць вока.

Што да пашырэння лацінкі ў школьныя класы і студэнцкія аўдыторыі, то тут, як кажуць у народзе, не да пацераў, калі хата гарыць. Беларуская мова сёння і так у катастрафічна аслабленым стане, і эксперыменты са шрыфтам могуць канчаткова звесці яе ў магілу. Ёй сёння як ніколі патрэбна кіслародная падушка дзяржаўнай падтрымкі.

Час лацінкі яшчэ не прыйшоў. Яна нам – як прывітанне ад Каліноўскага, Багушэвіча, Купалы. Думаю, што нашым нашчадкам яна яшчэ спатрэбіцца – як сёння спатрэбілася казахам.

НАВІНКА

# Па Гродне – на водным таксі

*У абласным цэнтры ўжо ў маі плануюць запусціць новы від гарадскога транспарту.*

Як паведаміў намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкама **Андрэй Болтрык**, у горадзе з'явіцца воднае таксі. Паслугі па перавозцы гараджан і гасцей горада па рацэ Нёман гатовы аказваць некалькі прадпрымальнікаў, у іх ёсць судны змяшчальнасцю 10–15 чалавек.

Прыбыць у абласны цэнтр водным транспартам у сезон можна будзе таксама і з Польшчы. З улікам таго, што замежнікі маюць права наведваць Гродна і Гродзенскі раён без візы, такія маршруты могуць стаць папулярнымі.

АБРАКАДАБРА

# Расія звар'яцела?

Выпадкова трапіла ў рукі адна расійская газета, якая прадаецца ва ўсіх нашых кіёсках. На першай паласе загаловак заметкі: "Алла Пугачева заработала 300.000 евро за полчаса". Прачытаў і падумаў: ну як можна за 30 хвілін адхапіць амаль трэць мільёна (!) еўра? У Маскве, аказваецца, можна. Вось праспявала 68-гадовая прымадонна на вяселлі некалькі песень – і ў чарговы раз азалацілася.

Хапнула не толькі Пугачова. Вёў вяселле канферансье Аляксандр Рэва. Як напісана, яго тарыф – ад 30.000 еўра.

Цікава, у якую ж суму абышлося вяселле маладым (ці іх бацькам) наогул?! Канечне ж, не ў адзін мільён тых жа еўра.

Расія звар'яцела… Я, шаноўныя чытачы, маю права на такую выснову. Мінулым летам службовыя абавязкі закінулі мяне пад Разань. Божухна, якая галеча кінулася ў вочы! Дарогі разбітыя, у вёсках амаль усе хаты маюць такі выгляд, быццам у іх даўным-даўно ніхто не жыве. Палеткі недагледжаныя, фермы развaленыя… Мясцовыя людзі ледзь выжываюць.

І ў той жа час, бачыце, Масква гуляе так, што адваліць Пугачовай 300.000 еўра за некалькі песень – як быццам выняць з кішэні два яблыкі. А вы чулі, каб у той жа Расіі, з якой мы будуем нейкую "саюзную дзяржаву", актыўна віталася дабрачыннасць? Да рэвалюцыі 1917 года мецэнацтва лічылася добрай справай багатых людзей, а сёння тыя ж маскоўскія алігархі хутчэй выкінуць мільёны на розныя п'яныя банкеты, чым дапамогуць абяздоленым людзям, якія пражываюць у правінцыі.

Што, у Крамлі не ведаюць, якое адбываецца расслаенне насельніцтва па ўсёй Расіі? Ведаюць, але, мабыць, краінай ужо правіць не Пуцін са сваім атачэннем, а тыя, хто можа за некалькі песень плаціць Пугачовай 300.000 еўра. А Пуцін ім патрэбны, каб прадоўжыць абкрадванне Расіі.

**Казімір СУХАДОЛЬСКІ.**
*Мінск.*

МЕРКАВАННЕ

# Скарачаем абслугу чыноўнікаў!

Раней "Народная Воля" ўзнімала гэта пытанне, а вось у апошні час я не бачу на яе старонках такіх публікацый. Я маю на ўвазе праблему немэтазгоднасці раздування штатаў па абслугоўванні чыноўнікаў.

Глядзіце, што мы маем у рэальнасці? Возьмем начальнічка самага нізкага ўзроўню. Мала таго, што ў прыёмнай сядзіць маладая даўганогая дзяўчына, якая не толькі адчыняе дзверы ў кабінет шэфа перад наведвальнікамі, але час ад часу падае яму і яго гасцям каву-гарбату, а то і больш моцныя напоі з закускай.

Насупраць кабінета начальніка – пакой для яго памочніка. Ён працуе не толькі з паперамі, але і выконвае любыя даручэнні боса. Фактычна ён памочнік не толькі чыноўніка, але і яго сям'і. І гэта лічыцца ледзь не нормай: маўляў, што тут дрэннага, калі памочнік пры неабходнасці акажа тую ці іншую паслугу сям'і начальніка?

У мяне іншы погляд. Будзь мая воля, я многіх чыноўнікаў нізкага ўзроўню, напрыклад раённага ці абласнога, пакінуў бы не толькі без памочнікаў, але і без сакратарак. У любой установе ёсць канцылярыя, агульны аддзел – няхай яны паперкамі і займаюцца. А што тычыцца тэлефоннай сувязі, то начальнік павінен сам здымаць трубку і непасрэдна весці дыялог з тымі, у каго ёсць да яго пытанні.

За кошт аптымізацыі штатаў розных чыноўніцкіх установаў дзяржава змагла б скараціць выдаткі на значную суму. Дарэчы, нам не патрэбна і такая, як цяпер, колькасць усялякіх начальнікаў.

**Генадзь БАРАВІК, эканаміст.**

SOS!

# С нищими учеными страна не станет богаче

Накануне выборов в местные Советы в «Народной Воле» много писалось о зарплатах кандидатов в депутаты и не только. Я хочу рассказать об оплате труда ученых, преподавателей вузов.



Вот конкретные факты. Я более 30 лет работаю доцентом государственного университета. Готовим очень востребованные кадры для сельского хозяйства. Логично предположить, что передовые позиции Гродненской и Брестской областей в аграрном секторе во многом связаны с работой наших выпускников – агрономов, зоотехников, ветврачей, экономистов. К примеру, три из одиннадцати Героев Беларуси окончили наш вуз. Многие выпускники имеют звание Героев Социалистического Труда СССР. В университете есть галерея Героев. И как же оценивается труд преподавателей, которые готовят специалистов высшей квалификации для очень важного сектора экономики? Так вот, должностной оклад доцента составляет 170,7 рубля. У профессора несколько выше, а у ассистента значительно ниже. В размер окончательной зарплаты входят еще доплаты за ученую степень, за ученое звание, за стаж. За успешную научно-методическую и научную работу могут быть индивидуальные премии согласно рейтинговой оценке. Например, 20–50% от оклада. Всего в сумме на карточку доцент получает примерно 450–550 рублей.

Рассмотрим краткосрочные и долгосрочные последствия такого неуважения к научно-педагогическим кадрам. Понятно, что люди с мозгами не могут жить на такой доход и вынуждены дополнительно зарабатывать. Хорошо, если на законной основе. Кто-то стал индивидуальным предпринимателем, кто-то – председателем ЖСПК по месту проживания, кто-то – таксистом, кто-то выращивает и продает саженцы плодовых деревьев и ягодников и т.д. Если ты хороший экономист, юрист, историк, то можно преподавать в нескольких местах. Но это будет уже не преподаватель, а урокодатель, бегающий с портфелем из одного учебного заведения в другое. А если у тебя узкая специальность, то и такой возможности нет. Скажите, а когда заниматься научной и методической работой, повышать свой уровень, следить за новинками в своей области знаний? В результате, несомненно, страдает уровень подготовки кадров. Хотя многие преподаватели, особенно старой закалки, стараются держаться на уровне.

О проблемах с набором студентов говорилось не один раз. В непрестижные вузы поступают учиться очень слабые абитуриенты, у которых почти нет мотивации к ежедневному учебному труду. Редкие «золотые крупинки» стараемся сориентировать на продолжение учебы в магистратуре и затем в аспирантуре. В ответ слышим логичный ответ: в итоге многолетнего напряженного труда защищу кандидатскую диссертацию, буду получать нищенскую зарплату и искать приработок. В результате лучшие выпускники идут в бизнес, в милицию, становятся строителями-ремонтниками и т.д., идут туда, где больше платят. А наша страна теряет важный научный потенциал.

Но это еще не все негативные последствия низкой оплаты труда научных сотрудников вузов. Самых лучших молодых ученых сманивают хорошей зарплатой представительства зарубежных фирм, занимающиеся в Беларуси продажей средств защиты растений, удобрений, стимуляторов роста и прочего. Уходят к ним ассистенты, доценты и даже заведующие кафедрами. В этой связи хочу привести высказывание одного успешного фермера, который в поиске новинок в технологии участвует во многих семинарах в стране и за рубежом. Так вот он говорит, что обидно слушать, как наши толковые молодые и не совсем молодые сотрудники с пеной у рта пропагандируют препараты зарубежных фирм. Он им задал вопрос: что же вы не создаете свои и их не внедряете? Вы же ученые, кандидаты наук. Стране ох как нужно импортозамещение, экономия валюты. Ответ, как говорится, смотри выше. К тому же на научные исследования в университете бюджетного финансирования почти нет, заключить хоздоговорные темы весьма сложно из-за отсутствия или нехватки свободных денег в субъектах хозяйствования, особенно в сельском хозяйстве. И скажем прямо: хоздоговорные темы имеют практическую направленность, используют уже имеющиеся научные разработки. Это тоже важно. Но, ограничившись этим, мы будем плестись в хвосте научного прогресса. Для работы на перспективу необходимо проводить фундаментальные исследования за счет бюджета. Без денежной подпитки научное творчество сохнет.

По телевидению мы не раз слышали высказывания высокого начальства о том, что главное наше богатство – высокий интеллектуальный потенциал наших людей. И это действительно так. Есть много стран, похожих на Беларусь по территории, и с таким же малым запасом полезных ископаемых. Успеха они достигли за счет свободного, предприимчивого, высокоинтеллектуального труда своих граждан, который адекватно вознаграждается. Так почему у нас такое отношение к научным сотрудникам? Зарплата продавца, водителя легкового автомобиля – 600–800, а у доцента университета – 500 рублей. В середине восьмидесятых годов прошлого столетия, когда я начинал работу в вузе, доцент получал 320 рублей, а средняя зарплата по стране (СССР) была 150–170 рублей. Сейчас все наоборот.

И еще. У наших соседей, в Украине, надбавки за ученое звание и ученую степень сохраняются и при выходе на пенсию. Это хороший стимул для привлечения талантливой молодежи в научную деятельность. У наших профессоров пенсия примерно на одном уровне с дворником и слесарем. Считаю, что это недальновидная политика. В современных условиях вложение денег в науку обязательно окупится. Ведь мы одна из наиболее талантливых наций. Это подтверждают победы наших школьников и студентов на международных конкурсах и чемпионатах, высокая оценка работы программистов. Выполнять Указ президента о развитии цифровых технологий тоже предстоит ученым. Поэтому в интересах страны всемерно поддерживать, в том числе и высокой зарплатой, высокоинтеллектуальный труд научных сотрудников.

**Василий МИХАЛЬЧИК,**
**доцент, кандидат сельскохозяйственных наук.**
Гродно.

РОЗДУМ

# Патрэбны новы рэферэндум

23 студзеня на старонках "Народнай Волі" быў надрукаваны артыкул Івана Яфіменкі "Беларуская нацыянальная ідэя – умовы прагрэсу і мірнай будучыні". Прачытаў я і задумаўся.

У 1991 годзе Беларусь атрымала дзяржаўнасць. Ну і што? Адкрыліся два шляхі: першы – шлях прагрэсу, другі – шлях дэградацыі. Дык вось большасць, на жаль, выбрала другі шлях – шлях дэградацыі. Не, я не іранізую. І не перабольшваю.

Пачалося ўсё, як помніце, з-за славутага рэферэндуму. Унеслі змены ў Канстытуцыю. Становішча з беларускай мовай стала значна горшым, чым у былым СССР. Ёсць такая адгаворка, якая часта гучыць з вуснаў высокіх чыноўнікаў і тэлевядучых – "подавляющее большинство" прагаласавала за двухмоўе. І што маем? Беларуская мова не гучыць у дзяржаўных установах. А самае страшнае, што яна не гучыць і ў дзіцячых садках, школах, ВНУ. Няма мовы – няма і не будзе сапраўднай незалежнасці. Беларуская мова – апірышча беларускай культуры, а калі роднае слова ў заняпадзе, то ў заняпадзе і нацыянальная культура.

Атрымалі незалежнасць, а якія мы выбралі гімн і сцяг? На мой погляд, павінна была гучаць "Пагоня" Багдановіча – геніяльны твор геніяльнага песняра. "Біце ў сэрцы, біце мячамі, не давайце чужынцамі быць".

А ці ёсць магчымасць надаць Беларусі статус пастаянна нейтральнай дзяржавы? Зараз такой магчымасці не існуе. Для гэтага патрабуецца выхад з "саюзнай дзяржавы". Хіба можна спадзявацца, што на гэта згодзіцца Расійская імперыя? Ды ў яе інтарэсы ва ўсіх частках свету!

Пасля таго як Пётр І "прасек" акно ў Еўропу, Кацярына ІІ заявіла: "Ніводная гармата ў Еўропе не выстраліць без нашага дазволу". Асабліва ўзмацнілася імперскасць Расіі пасля няўдалага паходу Напалеона на Маскву. Вось і некалькі гадоў таму яна праявілася ў анексіі Крыма, развязванні вайны ва ўсходняй Украіне.

Каб беларуская нацыянальная ідэя стала часткай грамадскай свядомасці, патрэбна шмат часу і працы. Трэба правесці чарговы рэферэндум, адмяніць вынікі папярэдняга, узяць арыенцір на сапраўднае нацыянальнае адраджэнне.

**Мікалай Міхайлавіч КОНАН.**
*Аграгарадок Сяменча Жыткавіцкага раёна.*

ВЫ ЦІКАВІЛІСЯ

# Чым займаецца Аляксандр Глеб?

***"Нешта даўно не было чуваць пра футбаліста Глеба-старэйшага. Ведаю, што Аляксандр хацеў паўдзельнічаць у Лізе чэмпіёнаў у складзе БАТЭ, але клуб адмовіўся ад паслуг паўабаронцы. Дзе ён зараз?"***

**Андрэй ВАЛЫНЕЦ, г. Маладзечна.**



Наколькі вядома, зараз Аляксандр Глеб знаходзіцца ў Казахстане, куды адправіўся "на прагляд" у каманду "Кайрат".

Як паведамляюць казахстанскія СМІ, беларускі футбаліст ужо атрымаў экіпіроўку «Кайрата» і будзе браць удзел у трэніроўках. Пры гэтым кантракт з экс-іграком нямецкага «Штутгарта», лонданскага «Арсенала» і іспанскай «Барселоны» пакуль не падпісаны.

Магчыма, паўторыцца сцэнарый, пры якім быў падпісаны кантракт з расійскім футбалістам Андрэем Аршавіным. Спачатку быў месяц выпрабавальнага тэрміну і дадатковых трэніровак. Калі Глеб набярэ патрэбныя кандыцыі, то з ім можа быць падпісана пагадненне да канца сезона.

Аляксандр Глеб не мае гульнявой практыкі з лета 2017 года. Апошнім яго клубам былі расійскія «Крылья Советов».

РЕЗОНАНС

# Кому надо – помогу

В «Народной Воле» за 13 февраля была напечатана статья Александра Градюшко «Пить или не пить». Прочитал я ее и решил сам взяться за перо.



Помню, как меня спаивали в деревне взрослые дядьки. Мне было тогда лет девять. Приехал я в гости к тете. Время обеда: собираются взрослые, садятся за стол. Посадили и меня (я еще не обедал). Все пьют самогон, а я сербаю суп. После завершения своей трапезы хотел было вылезти из-за стола и убежать к детям на улицу. Но тут же какой-то дядька взял меня за рукав и сказал: «Ты куда это? Пей за здоровье своего дяди, у него же сегодня день рождения». Стала давить на меня и какая-то тетка. Пришлось выпить полстакана мутной бормотухи.

Меня стало покачивать. Потом еще и еще мне наливали. И в конце концов сам из-за стола вылезть я уже не мог. Взрослые довели меня до кровати и уложили спать.

Раз за разом ночью меня рвало. Спасали пацана кто чем мог. Утром не было никакого желания подойти к столу – аппетит пропал. Меня отпаивали крепким чаем с молоком.

Об этом не хочется сегодня даже вспоминать. И я не стал бы писать, если бы не статья А.Градюшко «Пить или не пить?». Действительно, где, когда и почему появляются у нас алкоголики? Однозначного ответа быть не может. Случай со мной дает лишь один ответ – в семье! Об этом же пишет и автор статьи. Согласен с ним: именно в семье. Даже не думая о последствиях, мы зачастую спаиваем один одного. Зачем? Последствия иногда бывают не только плачевными, но и трагическими. По пьянке люди не понимают что творят: сын убивает отца, брат – брата, мать – маленькую дочь…

А теперь вопрос иного рода. Почему же я, получив столь сильное «крещение» в детстве, не стал ни пьяницей, ни алкоголиком? Ответов может быть много. Прежде всего это гены. В моей родословной нет любителей выпить да покуражиться или хуже того – подраться. Думаю, что навсегда меня отвернуло от алкоголя то, что я, будучи ребенком, отравился им раз и навсегда. И до сих пор, говоря серьезно, я благодарен тем, кто в тот веселый день по доброте душевной (не ведая, что творят) спаивал меня.

Не буду отрицать и тот факт, что зачастую спаивают слабовольного человека его же друзья. Не хочет человек больше пить, а на него наседают: да ты что, слабак? Или больной? Ты меня не уважаешь? Пей, как все! Иногда дело доходит даже до драки, а на следующий день извиняются один перед одним и… замачивают «мировую». Опять пьянка, опять все сначала. И так раз за разом. Потом милиция. Потом медвытрезвитель. Увольнение с работы. Развод… И так далее и тому подобное. Что, разве такого не бывает? А начиналось-то с чего? Кто в этом виноват? Те, с кем ты рядом. С кем работал. С кем жил. Поговорите на эту тему с людьми без определенного места жительства, то есть с бомжами. Они вам поведают, как и почему покатились по наклонной плоскости и оказались кто в подвале, кто на чердаке, кто в сарае, а кто и в местах не столь отдаленных. Не забывайте о такой «радужной» перспективе, когда перед вами замаячила возможность опрокинуть рюмку алкоголя.

Я поддерживаю автора статьи, который рассуждает о том, что нельзя нам быть равнодушными, если видим, что человек становится на скользкую дорожку и рано или поздно может поскользнуться и упасть. Кто потом его поднимет? Возможно, кто-то сам найдет в себе силы встать, отряхнуться и пойти дальше твердым трезвым шагом. А кто-то – увы… Поэтому если даже опрятно одетый человек на улице попросит у вас рублик или два на обед или ужин, не проходите мимо, но не лезьте в карман за деньгами, а скажите ему: «Пойдемте в столовую, я оплачу ваш обед». Если кто-то скажет, что не хватает денег на хлеб, скажите: «Идемте в магазин, я вам куплю буханку хлеба». Уверен: ваши щедрые предложения, говоря казенным языком, будут отвергнуты. Значит, перед вами пьяница или алкоголик. И, давая этому человеку деньги, вы будете помогать ему опускаться на дно. Если он здоровый – пусть идет и работает. Пусть зарабатывает. Именно на это и нацеливает безработных Декрет №1 президента Республики Беларусь об изменении Декрета №3 «О предупреждении социального иждивенчества», принятого в апреле 2015 года. В новой редакции столь серьезного документа определены задачи перед Советом министров, облисполкомами, местными и Минским городским Советами депутатов. Что касается местных исполнительных и распорядительных органов, то они должны, в частности, «содействовать трудоустройству граждан на имеющиеся вакансии и создавать рабочие места», а также «организовывать обучение» безработных, оказывать им «консультативную, методическую и правовую помощь». И многое другое. Как говорится, было бы желание…

Возможно, кто-то меня упрекнет: дескать, поучаешь других, как надо жить, даже ссылаешься на декрет президента, а сам как живешь? Живу справедливо. Никогда ни у кого не просил денег. Сам их зарабатывал. Потому попрошайкам-пьяницам (я их определяю с первого слова и с первого взгляда) всегда отказываю. И никто никогда в ответ мне не сказал ни одного грубого слова, не затеял со мной спор или драку. Чаще всего «добытчики» легких денег отходили от меня молча. А некоторые… извинялись. Понимали: не на того нарвались.

Я не бедный и не бездушный человек. Кому надо – помогу. А «помогать» (возьму это слово в кавычки) встречному-поперечному бездельнику, извините, мне совесть не позволяет. Если у попрошайки есть жена и дети, то, давая ему деньги, я причиняю боль его семье. Мало того, что он придет домой поздно и пьяный, так еще устроит скандал, драку. Жена дома крутится-вертится как белка в колесе, а он, видите ли, явился за полночь навеселе. Нет уж, муженек, кончай бездельничать! Мой тебе добрый совет: иди на работу!

**Федор ДУБРОВКА, пенсионер, трудовой стаж 58 лет.**
*Минск.*

